ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША. РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ.

Цана — Price 20¢

# БЕЛАРУС

BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER

BIELARUS
401 ATLANTIC AVE.
BROOKLYN 17
NEW YORK, N. Y.

Год IX. № 69 | 5 Жніўня 1958 | NEW YORK, N. Y., U. S. A. | August 5, 1958 | Vol. IX. № 69

## НЕПАКОЙ ТРУТНЯУ

Коштам міліёнаў і зь вялікім прапагандовым гукам Масква рыхтуецца да шумных абходаў 40-годзьдзя БССР, якое прыпадае на 1 студзеня 1959 г. „Сьвята" гэтае ня сьвята беларускага народу. Гэта толькі „торжество" бальшавіцкае Масквы ды той міліённай арміі насланага ёю расейскага чынавецтва, што шчыльна абсела ўсю Беларусь, міністэрствы, прапаганду, прамысловыя прадпрыемствы, калгасную адміністрацыю, МВД, ахову лягероў ды вастрогаў, міліцыю, ды сотні тысячаў дробных урадовых становішчаў савецкай бюракратычнай машыны. Вось уся гэтая расейская акупацыйная армія сяньня бязьлітасна смокча багацьце беларускай зямлі, валоча сабе й спажывае плады крывавае прыгоннае працы беларускага селяніна й работніка. На месца былых паноў ды барынаў зьявіліся новыя, больш лічныя, больш пражорлівыя.

Як акупацыйная гітлераўская ўлада мела ў Беларусі свой нямецкі прэсавы ворган „Мінскэр Цайтунг", гэтак і бальшавіцкі рэжым БССР выдае для насланае расейскае адміністрацыі расейскі штодзённік „Советская Белоруссия". Вось гэтая расейская газэціна ў нумары з 1 чырвеня 1958 г., у ваддзеле „Международные заметки", вялікім артыкулам выяўляе свой непакой, „зьдзіўленьне", а навет „абурэньне" з таго, што Беларусы й прыязныя беларускаму народу чужынцы на вольным сьвеце памятуюць ды абходзяць угодкі незалежнасьці не калёніі Масквы — БССР, а Беларускай Народнай Рэспублікі — БНР.

„Советская Белоруссия" артыкулам нейкага „господина" Г. Маева намагаецца асягнуць адразу тры мэты: уславіць „шчасьце" ды „рост" у БССР, зьняславіць памяць БНР, ды — паменшыць палітычнае значаньне сакавіковых абходаў незалежнасьці Беларусі ў вольным сьвеце.

Што да першага — „шчасьця" ды „росту" Беларусі „дзякуючы брацкай помачы . . . вялікага рускага народа" — сама „Советская Белоруссия" хіба найлепш ведае тую жудасную існасьць гэтага „росту", якая найяскравей выяўляецца ў факце, што толькі ад 1939 г. жыхарства БССР спала з 10½ міліёнаў да 8 міліёнаў. А калі ўзяць на ўвагу тое, што разам з натуральным прыростам за гэтыя гады жыхарства БССР павінна было-б цяпер узрасьці да больш 14 міліёнаў, дык гэты „шчасьлівы" рост уніз выказваецца сумаю страты цэлых 6 міліёнаў беларускага народу. Толькі нейкая трэйцяя частка гэтага, гэта ваенныя вынішчэньні (у чым Немцам вельмі шчыра памагала Масква). Бальшыня-ж, гэта жудасны вынік нясупынных бальшавіцкіх масавых ліквідацыяў, дэпартацыяў, ссылак, перасяленьняў на Сібір, Салаўкі, Казахстан, Калыму ды іншыя слаўныя лягеры ды краіны Савецкай прыгоннай імпэрыі. Гэта ўсё вынікі саракгодняй народагубнай палітыкі Масквы ў Беларусі, гэта рэзультаты яе масавага генасіду над беларускім народам, за што „Советская Белоруссия" сяньня й заклікае дзякаваць „вялікаму рускаму народу".

А што да „шчасьця" тых, што ўсё-ж яшчэ засталіся жывыя ды на беларускай яшчэ зямлі, а не на Сібіры, дык ведаем добра, што Беларусом у Беларусі пакінуты сяньня толькі адзін „прывілей" і адна „свабода" — працаваць, працаваць без канца, без аддыхі, аж да ўпадку, і даставаць за катаржныя нормы ды працадні мізэрныя жабрацкія абрыўкі на галечае існаваньне. Ведама-ж, што амаль усю прадукцыю БССР Масква забірае ў сваё распараджэньне ў парадку шматлікіх дзяржаўных забавязаньняў ды паставак, беларускаму-ж работніку ды селяніну застаюцца толькі марныя аб'едкі, тое, што спадзе з банкетнага стала расейскае адміністрацыі. Прадукаваную снасьць і машыны, прыкладам, вывозіцца масава з БССР, а зьбіраць ураджай у абязлюдненай Беларусі, як было летась, даводзіцца голымі рукамі сагнаных на гэта тысячаў школьных дзяцей. Гэткае вось „шчасьце" беларускага народу ў БССР славіць „Советская Белоруссия" — ворган маскоўскіх прыгонных цівуноў беларускага народу.

БНР — Беларускую Народную Рэспубліку — „Советская Белоруссия" ганьбіць найбольш за тое, што яна быццам паўстала ў пару нямецкае акупацыі. Няпраўда. Будаваньне сваёй незалежнай народнай рэспублікі беларускі народ пачаў яшчэ ў сьнежні 1917 г. Усебеларускім Кангрэсам у Менску з 1872 дэлегатаў, тады, калі ніякіх Немцаў ані ў Менску, ані каля Менску ня было. Тады-ж была выбраная й першая дзяржаўная ўлада Беларусі — Рада Ўсебеларускага Кангрэсу. Завяршыць дзяржаўнае будаўніцтва Ўсебеларускі Кангрэс тады ня змог толькі дзеля таго, што на Кангрэс напалі й сілаю яго разагналі збройныя расейскія бальшавіцкія банды. Вось хай пра гэта напіша праўду сваім чытачом „Советская Белоруссия". І першы ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі быў створаны Радаю Ўсебеларускага Кангрэсу ў вызваленым ад бальшавікоў Менску 21 лютага 1918 г., значыцца тады, калі там таксама яшчэ ніякіх Немцаў ня было.

За нямецкаю ўжо вайсковаю акупацыяй адбылося толькі афіцыйнае апавешчаньне акту незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918 г. Гэты акт быў накіраваны й супраць Немцаў, і супраць бальшавіцкае Масквы як сваім бескампрамісным дамаганьнем незалежнасьці беларускаму народу, гэтак і сваім станаўкім адхіленьнем важнасьці падпісанае коратка перад тым Берасьцейскае ўгоды, паводля якое Масква частку Беларусі заграбала сабе, рэшту-ж аддала Нямеччыне — „крываваму кайзэру", як піша „С. Б.". У сакавіковым акце апавяшчалася: „На падставе гэтага трацяць сілу ўсе дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы яго на часткі". Гэтак Акт 25 Сакавіка анулёўваў трактат, якім Масква цынічна й бяспраўна дзялілася беларускаю зямлёю з годным супольнікам крывавага рабунку — Вільгельмавай рэакцыйнай Нямеччынай. Дык Акт 25 Сакавіка быў ськіраваны супраць абодвух акупантаў Беларусі роўна: і бальшавіцкай Расеі, і кайзэравай Нямеччыны.

„Советская Белоруссия" „абураецца" яшчэ за тое, што месяц пазьней, дзеля маскоўска-бальшавіцкае загрозы, Рада БНР зьвярнулася да Бэрліну з просьбаю аб дапамозе „для аховы й для дзяржаўнага ўмацаваньня незалежнасьці й непадзельнасьці Беларусі". „С. Б." відаць уважае, што шуканьне беларускім народам дапамогі ў іншых, каб ратавацца ад агрэсіі Масквы, гэта найстрашнейшы на сьвеце грэх. А ці „Советская Белоруссия" забылася пра тое, як сама бальшавіцкая Масква без аніякое загрозы збоку ў 1939 г, падпісала ўсоду аб „прыязьні" ды ўзаемнай дапамозе з куды горшым, зь нямецкім фашыстоўскім рэжымам — з рэжымам Гітлера. Гэтага свайго ўчынку аблыжная Масква нейк і сяньня ня лічыць ані за грэх, ані навет за памылку.

Абходы 25 Сакавіка ў вольным сьвеце вельмі-ж не падабаюцца „Советской Белоруссии". Піша пра іх яна сваім чытачом вельмі мала, пры тым факты хвальшуе, праўду хавае. Газэціна падае, прыкладам, што „памяць" пра Беларускую Народную Рэспубліку „аднаўляецца" быццам толькі цяпер, тымчасам дзень незалеж-

Да наступнай бал.

## У ПАЛОНЕ ШАНТАЖУ

Галоўнаю ўвагаю міжнароднае палітыкі астатніх дзён — падзеі на Сярэднім Усходзе. Падзеі гэтыя сталіся ў выніку залагоджаньня нядаўнага Суэцкага канфлікту карысна для савецкага падручніка, эгіпскага дыктатара Насера. Кіруючыся палітыкай шантажу, Масква не забавілася выклікаць новы канфлікт, горшы да разьвязаньня й палагоджаньня.

Бальшавікі пачалі свой нахабны шантаж у Ялце. На Ялцінскую канфэрэнцыю Сталін здолеў прасунуць у дараднікі Рузвэльту Альджэра Гіса, які потым быў асуджаны амэрыканскім судом за шпіянаж на карысьць Саветаў. На Ялцінскай канфэрэнцыі, як ведама, Захад, бяручы на веру словы Сталіна, даў бальшавіком магчымасьць зьняволіць гаспадарствы Сярэдняе Эўропы ды Усходнюю Нямеччыну.

Далей пашлі новые Ялты й новы бальшавіцкі шантаж — у Карэі, Індакітаі, у Жэнэве на канфэрэнцыі вышэйшага ўзроўню, а цяпер на Сярэднім Усходзе. Нечаканы крывавы пераварот у Іраку, падрыхтаваны заплечнікам Масквы Насерам, змусіў Амэрыку і Ангельшчыну пасьлаць войскі ў суседнія зь Іракам гаспадарствы — Лібан і Іарданію, на просьбы ўрадаў гэтых краёў, якім пагражаў лёс Іраку. Але што далей?

Неадпаведнае й некансэквэнтнае стаўленьне вольных заходніх гаспадарстваў да малых зьняволеных народаў — з аднаго боку —, а схіляньне й адступленьне перад савецкім шантажом — з другога — прывялі да сучаснага стану на Сярэднім Усходзе, дзе палагодзіць канфлікт мірным парадкам і няшкодна для Захаду, бадай, немагчыма. Сучасны стан рэчаў ўзмацняе савецкія ўплывы сярод арабскіх гаспадарстваў і спрыяе пашырэньню маскоўскага пратэктарату на ўвесь Сярэдні Усход. Хрушчоў пацяшаецца: і з таго цяжкога стану, у які трапілі Заходнія гаспадарствы і з тэй надзеі, што яму нарэшце ўдасца дайсьці да канфэрэнцыі на „Найвышэйшым узроўні". Высунуўшы справу Сярэдняга Усходу Масква гэтым адсунула набок справы Сярэдня-Эўрапэйскіх гаспадарстваў ды справу задзіночаньня Нямеччыны.

Хрушчоў даў згоду на канфэрэнцыю ў рамах Задзіночаных Нацыяў, чаго заходнія палітыкі не спадзяваліся. Гэты факт лішні раз пацьвярджае наіўнасьць заходніх гаспадарствавых кіраўнікоў, што да ацэны савецкае палітыкі й савецкіх верхаводаў, а перадусім Мікіты Хрушчова.

А чаму-ж-бы яму ня выступіць на трыбуне Задзіночаных Нацыяў ды лішні раз не пазьдзекавацца над Заходнімі палітыкамі? Што ён можа праіграць на канфэрэнцыі ў сучасных абставінах, калі-б разглядалася толькі справа наяўнага Сярэдня-Усходняга канфлікту? Нейкая часовая палітычная стабілізацыя таксама на руку Мікіты. Яна ўздыме яго прэстыж ды цясьней здушыць думку й надзею ў паняволеных народаў на вызваленьне. А вынікі цяперашняга бальшавіцкага шантажу вынікнуць неўзабаве.

Ці дапусьцяцца заходнія гаспадарствы да новае „ялты" й да новага бальшавіцкага шантажаваньня? Ёсьць падставы спадзявацца, што на гэты раз Захад выйдзе з палону крамлёўскага шантажу, прынамся, калі меркаваць па першых кроках Амэрыкі й Ангельшчыны. Дасюлешняя рэчаіснасьць, аднак, змушае спадзявацца й на горшае.

## ДНІ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Два дні перад амэрыканскім Днём Незалежнасьці, 2 ліпеня, кангрэсмэн Альбэрт У. Крэтэльля з Конэктыкут склаў амэрыканскаму Кангрэсу прапанову рэзалюцыі аб праклямаваньні прэзыдэнтам і адзначаньні ў ЗША дзён незалежнасьці паняволеных народаў, між імі й 25 сакавіка — Дня незалежнасьці Беларусі. Тэкст прапанаванай для Кангрэсу рэзалюцыі гэткі:

Дзеля таго, што барбарскае расейска-камуністычнае замардаваньне Імрэ Надзя й іншых шчырых вугорскіх патрыётаў кранула йзноў сумленьне й накіравала ўвагу амэрыканскага народу на справу трагічнага змаганьня паняволеных народаў; ды

Дзеля таго, што ад 1918 году нясупынная агрэсія расейскага камуністычнага імпэр'ялізму й каляніялізму разбудавала бяспрыкладную імпэрыю, якая, на базе захопленых рэсурсаў, якія Масква бязаглядна экпляатуе, цяпер сьмяртэльна загражае бясьпецы Задзіночаных Штатаў і ўсяго вольнага сьвету; ды

Дзеля таго, што шмат паняволеных народаў у гэтай імпэрыі аглядаецца на Задзіночаныя Штаты й маральную сілу іхнае Дэкларацыі Незалежнасьці ды Хартыі Правоў для свайго будучага вызваленьня й незалежнасьці, і для поўнага аднаўленьня асабістых свабодаў у духу хрысьціянскіх, жыдоўскіх і магамэтанскіх традыціяў сваіх народаў; ды

Дзеля таго, што вера ды надзея на сваё вызваленьне паняволеных народаў Усходняй Эўропы й Азіі фундамэнтальна важныя для дзяржаўнае бясьпечнасьці Задзіночаных Штатаў і дзеля гэтага аснаўныя для замежнае палітыкі Задзіночаных Штатаў; ды

Дзеля таго, што ўсе паняволеныя народы ўсёю душой і сэрцам штогоду верна адзначаюць тыя гістарычныя падзеі свайго мінулага, якія сымбалізуюць іхныя сучасныя імкненьні ды іхную былую незалежнасьць і свабоду; ды

Дзеля таго, што наш відавочны маральны абавязак, як людзей вольных, арганізованым натугам далучыць свой магутны голас да тых ціхіх ды дзейных малітваў за дзяржаўную незалежнасьць і волю: Вось дзеля гэтага хай будзе.

Пастаноўлена Гасподаю Рэпрэзэнтантаў (пры судзейнасьці Сэнату), што воляю Кангрэсу Задзіночаных Штатаў стала, каб прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў апавяшчаў наступныя гістарычныя дні, як дні адзначэньня народам Задзіночаных Штатаў яго духовага адзіночаньня з ахвярамі расейскага камуністычнага імпэр'ялізму й каляніялізму: 15 сакавіка як Вугорскі Дзень, 3 травеня як Польскі Дзень; 16 лютага як Летувіскі Дзень; 14 сакавіка як Славацкі Дзень; 22 студзеня як Украінскі Дзень; 18 лістапада як Латвійскі Дзень; 10 кастрычніка як Кітайскі Дзень; 25 сакавіка як Беларускі Дзень; 10 травеня як Румынскі Дзень; 24 лютага як Эстонскі Дзень; 13 сьнежня як Туркестанскі Дзень; 26 травеня як Грузінскі Дзень; 3 сакавіка як Баўгарскі Дзень; 28 травеня як Армянскі й Азэрбайджанскі Дзень; 15 жнівеня як Карэйскі Дзень; 28 кастрычніка як Чэскі Дзень; 28 лістапада як Альбанскі Дзень; 17 чырвеня як Дзень Усходняе Нямеччыны; і 26 кастрычніка як Уетнамскі Дзень.

Праект гэтай рэзалюцыі ў Кангрэсе азначаны нумарам 347. Даслоўна такую-ж рэзалюцыю ў Сэнаце мае запрапанаваць сэнатар П. Г. Дагляс зь Іліной.

## НЕПАКОЙ ТРУТНЯЎ

насьці Беларусі вольныя Беларусы абходзяць ужо 40 гадоў і кажны год. „С. Б." таксама піша толькі аб сьвяткаваньнях незалежнасьці БНР у ЗША, а нічога не ўспамінае пра падобныя сьвяткаваньні па іншых краёх Амэрыкі, Эўропы, Аўстраліі. Дый у ЗША піша толькі пра Нью Ёрк, а нічога пра іншыя месты, нічога пра Вашынґтон, пра малітвы й прамовы з нагоды незалежнасьці Беларусі ў амэрыканскім Кангрэсе ды Сэнаце, пра беларускую дэлегацыю ў віцэпрэзыдэнта Ніксона, пра прывітаньне прэзыдэнта Айзэнгаўэра, пра шырокі водгук гэтых сьвяткаваньняў сярод вядучых кругоў амэрыканскага палітычнага сьвету. Вось гэта ўсё „С. Б." крывадушна хавае ад сваіх чытачоў. Газэціна лае мэра Нью Ёрку Ваґнэра за ягоныя штогодныя сакавіковыя праклямацыі ад 1956 г., ды адначасна маўчыць бы вады ў губу набраўшы пра падобныя сёлетнія праклямацыі губэрнатараў аж васьмёх амэрыканскіх штатаў.

З артыкулу „С. Б." відаць, што Маеў пры пісаньні меў перад сабой зацемку „Нью Ёрк Таймс" аб сёлетніх сьвяткаваньнях у Нью Ёрку, ды кніжыцу аб 25 Сакавіку выданьня БАЗА, зь якое падае прозьвішчы ўдзельнікаў мінулагодняга сьвяткаваньня: кітайскага прадстаўніка ў Задзіночаных Нацыях др. Цянга, сэнатара Морысея. Ды й тут не абышлося бяз хвальшу. Кангрэсмэну Дорну аўтар адмаўляе кангрэсмэнства, а лік прысутных на сёлетніх сьвяткаваньнях зьмяншае да „колькі дзесяткоў", хоць „Таймс" падаваў іх колькі сотняў,

У цэласьці рэакцыя „Советской Белоруссии" выяўляе тыповыя азнакі страху ды непакою маскоўскай каляніяльнай адміністрацыі БССР на самую думку аб тым, што прыйдзе нарэшце пара, калі беларускі народ пражане з свайго карку насланых Масквою камісараў - дармаедаў. Гэта нэрвовы непакой трутняў у ваблiччы гістарычнае пэрспэктывы нямінучае страты салодкіх сотаў беларускае зямлі.

*А. К.*

### КАНФЭРЭНЦЫЯ У ВАШЫНГТОНЕ

У днёх 30 чырвеня й 1 ліпеня сёлета ў Вашынгтоне адбылася канфэрэнцыя нацыянальных арганізацыяў Амэрыкі, якая была заложаная праз "National Confederation of American Ethnic Groups".

На гэтай канфэрэнцыі рэпрэзэнтаваў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне Сп. К. Мярляк.

Апрача прадстаўнікоў нацыянальных арганізацыяў былі прадстаўнікі Нацыянальных Камітэтаў Рэспубліканскай і Дэмакратычнай Партыяў, Прадстаўнікі Амэрыканскага Ураду й Кангрэсу.

## БАЛЬШАВІЦКІЯ "ДАСЯГНЕНЬНІ" НА БЕЛАРУСІ

Пры кажнай нагодзе, асабліва-ж у сувязі з падрыхтоўкай да сьвяткаваньня саракагодзьдзя БССР, а таксама і ў сувязі зь дзейнасьцяй Беларусаў - эмігрантаў, бальшавікі, апраўдваючы сваё паняволеньне Беларускага народу, паўтараюць абкляпанае на ўсе бакі цьверджаньне: „Беларусь з найбольш адсталых краёў абярнулася пры бальшавіцкай уладзе ў прамысловы зь перадавой тэхнікай край". Пры гэтым абавязкава дадаецца: „з дапамогай вялікага расейскага народу". Праўдзівасьць вымагае адцеміць, што не зважаючы на сьведамае сутрыманьне культурнага й тэхнічнага развою Беларусі царскім урадам, Масква яшчэ не патрапіла зрабіць Беларусь больш адсталай за Маскоўшчыну, — магчыма, што гэта ўжо зрабіла бальшавіцкая Масква. Трафарэтныя цьверджаньні аб адсталасьці беларускага народу пашырыліся нашымі „дабрадзеямі" Расейцамі й Палякамі, якія ўжо ад вякоў „падымалі" Беларусаў з адсталасьці, забіраючы іхныя багацьці. Тое-ж цяпер і з бальшавікамі.

Што праўда, бальшавікі пабудавалі колькі вялікіх фабрыкаў і заводаў. Пахваляюцца аўтамабільным заводам у Менску, машына-будаўнічым і фабрыкай радыяапаратаў там-жа, гомельскімі сельска-гаспадарчымі машыннымі вырабамі ды яшчэ сім-тым ужо меншага тэхнічнага значаньня. Сам факт існаваньня колькіх большых заводаў і фабрыкаў аніяк ня сьветчыць аб запраўдным развоі й прамысловым поступе краю. Досыць толькі ўспамянуць, што як кіраваньне прамысловымі прадпрыемствамі, так і карыстаньне прамысловымі вырабамі належаць вылучна да Масквы, а не да ўраду БССР, хоць ён таксама пастаўлены Масквою. Усе гэтыя прадпрыемствы існуюць для крамлёўскага палітычнага „агітпропу" й ашуканства нясьведамых і неразьвітых палітычна народаў. Вырабы зь беларускіх прадпрыемстваў ідуць у Азію (Кітайшчыну, Манголію, Уетнам, Паўночную Карэю), а цяпер напэўна паплылі ў Афрыку для прываблiваньня на свой бок Арабскіх народаў. З агульна-краёваю гаспадаркай, якая ўжо там яна ні ёсьць, гэтыя прадпрыемствы нічым не павязаныя, а таму маюць малое значаньне ў агульна-гаспадарчым разьвіцьці. Крэмль зусім ня лічыцца з тым, што для Беларусі патрэбнае й карыснае для таго гаспадарчага развою, аб якім бальшавіцкі заўсёды хлусьлівы „агітпроп" цьвердзіць.

Горкаю гіроніяй гучаць словы „народная гаспадарка". Не адно народ, але, паўтараем, і пастаўлены Масквою ўрад ня волен у сваім дзеяньні: Масква забірае па ўсталенай самою ёю цане і сярнічкі, і паперу, і мэблю ды іншыя вырабы цалкам зь беларускае сыравіны. Таму на Беларусі, як і раней, для карыстаньня самому народу застаюцца жорны заміж млына, глінянае кухоннае судзьдзё свайго ручнога вырабу заміж шклянак і талерак, карэмысла ды найчасьцей дрыўлянае вядро заміж вадаправоду, газьніца заміж прапагандовае „лямпачкі Ільліча", зэдлікі й тапчаны заміж крэслаў і дыванаў, „бахілы" з гумы заміж ботаў — вось тое, што таварыш-панявольнік пакінуў народу. Гэта зноў-жа аніяк ня сьветчыць аб адсталасьці й няўмельсьцьве самога народу: у няволі не пакіруешся як захочаш і ня зробіш, што хочаш. Усё гэта бальшавікі хаваюць ад людзкіх вачэй зялезнаю заслонай, каб ня кажны мог праверыць тыя „дасягненьні".

Нельга пахваліцца бальшавіком і самою тэхнікай, асабліва тою, што служыць жыцьцёвым патрэбам. У „Зьвязьдзе" (№ 60 за 12 сакавіка сёлета) у артыкуле „Пагаворым пра мэблю" чытаем: „На ельскай мэблявай фабрыцы брак склаў 100%, рэчыцкай — 96%, менскай № 2 — 86%, гомельскай — 60%, менскай № 1 — 58%, мазырскім дрэваапрацовачным камбінаце — 41.7%, рэчыцкім камбінаце 23,3 %". Трэба было-б заняць вельмі шмат месца, каб падаць гэткія вось цьверджаньні самымі бальшавікамі: шыюцца чаравікі з крывымі абцасамі, адзежына зь непамернымі часткамі, робяцца часткі да машынаў нідачога ня прыдатныя й гэтак бясконца.

Ня менш, а можа найбольш важны паказальнік гэтага прамысловага развою — заработкі работнікаў. Бадай не памылімся, калі скажам, што заработак 500 рублёў на месяц для савецкага работніка будзе вышэй сярэдняга. Калі лічыць, што купная вартасьць рубля у 10 разоў меншая за купную вартасьць даляра, дык гэта складзе 50 дал. на месяц, тымчасам сярэдні заработак амэрыканскага работніка — 78 даляраў на тыдзень ці 312 на месяц. Суадносіны-ж цэн на розныя прадукты, зноў-жа, не на карысьць савецкага работніка. Калі-б падсавецкаму жыхару сказаць, што звычайны некваліфікаваны амэрыканскі работнік заробіць за дзень паўтара пуда чыстага добрага сала ці бязмала чатыры пуды цукру, або прыгожую пару абутку, а за тры дні добрую пару верхняе адзежы, дык савецкаму жыхару цяжка будзе гэтаму паверыць, хоць ён пэўне-ж знае, што савецкі работнік зарабляе хіба-ж найменш за ўсіх іншых на цэлым сьвеце. I ня дзіва: ён працуе ў прыгоне. Аднак, гэта не найважнейшае.

Усё-ж і дагэтуль Беларусь засталася краем земляробскім. У земляробсьцьве-ж бальшавіцкае гаспадараваньне давяло край да катастрофы. Дарма паўтараць падобныя вось нахабнасьці: „Партыя й урад ажыцьцявілі карэнныя меры па тэхнічнаму пераузбраеньню сельскай гаспадаркі й ліквідацыі яе адвечнае адсталасьці" — гэтак напісана ў артыкуле „Новы этап у разьвіцьці калгаснага ладу" („Зьвязда" № 60 — 1958 г.). Гэтых „адвечна адсталых" этапаў у калгасах было й будзе шмат аж да скону бальшавікоў, і заўсёды „новы этап" будзе ліквідаваць адвечную адсталасьць.

Калі за бальшавікамі ўведзеная машынная абробка зямлі, дык затое спустошаная зямля так, што шмат дзе ўжо неварочае насеньня, і вялікія прасторы палёў заростаюць хмызьнякамі. У Віцебшчыне калгасы

## АЛЯСКА — 49-ы ШТАТ З. Ш. А.

У канцы чырвеня Сэнат З. Ш. А. зацьвердзіў закон аб прыняцьці Аляскі ў дзяржаўную сыстэму ЗША на правох новага штату (галасаваньне: **64 - 20**). У верасьні жыхары Аляскі маюць апрабаваць гэты закон асобным плебісцытам і выбраць штатных і фэдэральных прадстаўнікоў ад Аляскі. Дагэтуль Аляска лічылася **тэрыторыяй ЗША.**

Што за карысьць жыхаром Аляскі з гэтае новае дзяржаўнае формы?

Жыхары Аляскі набудуць права галасаваць на Прэзыдэнта й быць рэпрэзэнтаванымі ў Вашынгтоне 2-ма сэнатарамі й адным кангрэсмэнам. Будучы штатам, Аляска можа атрымоўваць фэдэральную дапамогу (у школьніцтве, субсыдіі для некаторых відаў прамысловасьці й г. д.). Будучы штатам, Аляска можа вызначыць сродкі на разьвіцьцё сваіх рэсурсаў, не патрабуючы чакаць, пакуль аб гэтым пастановіць Вашынгтон. Разьвіцьцё рэсурсаў можа спрычыніцца да прыплыву новага насельніцтва й індустрыі.

**Колькі фактаў аб Алясцы**

Тэрыторыя — 586,400 кв. міляў (у 2 разы большая за Тэксас, які дасюль быў найбольшым штатам ЗША).

Аляска не спалучаная зь іншымі штатамі ЗША. Найбольш паўдзённыя мясцовасьці Аляскі знаходзяцца 800 міляў на поўнач ад найбліжэйшага амэрыканскага порту — Сыэтль. Гранічыць толькі з Канадай на ўсходзе. На захадзе — Пацыфік, які ў найвужэйшым месцы (20 міляў) аддзяляе Аляску ад Сібіры. З увагі на суседзтва з Саветамі, Аляска мае цяпер вялікае стратэгічнае значаньне.

Насельніцтва: 210,000. З гэтага — 45,000 вайскоўцы й іхныя сем'і, 34,000 — тубыльцы (Эскімосы, Індыяне, Алеўты). Сярэдні век жыхарства Аляскі: 26 год.

**Гісторыя Аляскі.**

У 1867 годзе ЗША купіла Аляску ад царскае Расеі за 7.2 міліёнаў даляраў. Транзакцыя лічылася тады вельмі неразумнай. Ад таго часу цана гэтая апраўдалася ў сотні разоў. Толькі золата ў Алясцы было выкапана да сяньня на 700,000,000 дал.

**Эскімосы** цяпер вельмі хутка прывыкаюць да цывілізацыі й выявіліся вельмі здольнымі мэханікамі. Між іншага, усіх белых людзей яны завуць „казакамі" яшчэ з часоў заваяваньня Аляскі Расеяй.

**Багацьці Аляскі.** Найбольшая прамысловасьць — усё яшчэ рыбацтва. Апрача таго тут здабываецца вугальле (якога паклады большыя, чымся ў Пэнсыльваніі), нафта, плятына, золата, ртуць, цына, хром, серабро, зялезная руда.

Аграмадныя лясы й вялікі патэнцыял вадзяной энэргіі, з вадаспадаў.

**Клімат:** у паўдзённа-ўсходняй частцы зусім умеркаваны — шмат дажджоў. Сярэдняя тэмп. ліпеня — 56 град. студзеня: 30 град. (Фарэнгэйта).

У паўночнай частцы клімат падобны да скандынаўскага. Аляска ляжыць на тэй-жа шырыні, што й скандынаўская паўвыспа.

Губэрнатар Майкэл Стэповіч (сын югаслаўскага імігранта) уважае, што за 50 год насельніцтва Аляскі будзе 30 міліёнаў. Сталіца Аляскі: Жуно, 7,000 жыхараў. Найбольшае места: Энкорыдж, 94,000 жых. — цэнтар нафтавай прамысловасьці.

**Умовы жыцьця** ў Алясцы: Дамы дарагія. Гародніну й фрукты трэба давозіць з кантынэнтальнай Амэрыкі, Таму яны дарагія. Заработкі таксама вышэйшыя. Дзяржаўныя працаўнікі зарабляюць на 25% больш, чымся ў іншых штатах. Аднак кошт жыцьця ў Алясцы таксама прыблізна на 25% вышэйшы.

## *Весткі з БССР*

### СЬВЕТКІ ЕГАВЫ

27-га ліпеня сёлета ў Нью Ёрку пачалася тыднёвая „Божай Воляй Міжнародная Асамблея" Сьветак Егавы — новага рэлігійнага руху, які налічвае цяпер 719 тысячаў сяброў на цэлым сьвеце (106 тыс. у 1942 г.). Сёлета на Міжнародную Асамблею ў Нью Ёрку зьехаліся 180 тысячаў „Сьветак Егавы".

Гэты рэлігійны рух, як выглядае, пранік навет за зялезную заслону, на Беларусь. Газэта „Советская Белоруссия" ад 25 траўня 1958 г. апублікавала вялікі артыкул пад загалоўкам „Хто хаваецца за старажытным Егавам". Савецкая прапаганда старой прыхваткай зьвязвае новы рэлігійны рух з амэрыканскай разьведкай і падрыўной дзейнасьцяй супраць савецкае ўлады. Газэта дае пры гэтым цікавыя дэталі, апісваючы выпадак сэкты егавістых у Капысі Віцебскай вобласьці. Заснаваў сэкту 34-гадовы Мікалай Бараноўскі, пасьля адбыцьця 10-гадовага пакараньня за „супрацоўніцтва зь нямецкімі фашыстымі". М. Бараноўскі вярнуўся на бацькаўшчыну. „Усе, хто ведаў яго раней, — піша „Сов. Бел.", — не маглі не заўважыць у ім перамены". „Памалу ў Капысі, — апісвае далей газэта, — пачала засноўвацца рэлігійная сэкта егавістых. „Браты й сёстры ў Хрысьце" або „сьветкі Бога Егавы", як яны завуць сябе, слухалі спачатку Біблію, чыталі „Жыцьці сьвятых" ды маліліся, стоячы перад вакном". Неўзабаве, аднак, савецкая ўлада ўгледзела больш небясьпекі ў новай сэкце: „Бог Егава, — абвінавачвае „Сов. Бел." — як выяўляецца, ня толькі супраць ныкатыну, алкаголю, лаянкі, але й супраць кнігаў, газэтаў, кіно, клюбаў, вечароў ... Забараняе Ён і ў калгасе „старацца", каб не ўмацавалася „царства дзьябла"... Калі ў краі абвесьцілі падпіску на дзяржаўную пазыку, Бог Егава йзноў супрацівіўся. Вуснамі свайго „пасланьніка" Бараноўскага ён гаварыў веруючым: грэх даваць грошы на цяжкую індустрыю ... Пазьней Ён (Егава) забараніў сваім слугам браць удзел у выбарах ..."

„Совесткая Белоруссия" абвінавачвае егавістых за нелегальную сувязь з заграніцай, зь ньюёркаўскімі „бізнэсмэнамі" праз тайныя шрыфты, а таксама праз публікаваны ў Брукліне часапіс „Вартавая вежа".

### ЧЫРВОНЫ ДУРМАН і ЗЯЛЁНЫ ТУМАН

„Літаратура і Мастацтва" у нумары з 31 траўня б'е трывогу з прычыны пашырэньня баптызму й адвэнтызму ў Беларусі. Карэспандэнт у вартыкуле „Зялёны туман" піша аб баптызьме:

„Сэкта расьце, раськінула свае шчупальцы на многія вёскі, у тым ліку на Пружынішчы і Гарохавішчы Акцябрскага раёну, Зарэччы Парыцкага раёну, Усюнішчы Даманавіцкага раёну ..."

Сэкта адвэнтыстых пашыраецца таксама, як для прыкладу ў вёсцы Тоўкіна Пінскага раёну, у цёсцы Беражное Столінскага раёну, дзе „у Надзеі Сапрон ... штодзённыя зборышчы дарослых, моладзі й навет дзяцей школьнага й дашкольнага веку".

Карэспандэнт, нейкі Дрыль, дзівіцца вельмі гэтаму гвалтоўнаму пашырэньню сэктаў у „сацыялістычную эпоху", ды высьняе, што „зелёным туманом" людзі называюць баптызм, бо „ён як атрута засьцілае вочы". Нам, выдаецца, што дзівіцца пашырэньню „туманоў" няма чаго. Адказ чаму, вельмі просты: людзям горш горкай рэдзькі збрыдзеў бальшавіцкі чырвоны дурман, і вось шукаючы ад яго ратунку народ кідаецца у „зялёны туман" — баптызм, адвэнтызм ды іншыя рэлігійныя сэкты. Прабуюць клін клінам выбіваць,

### РЭЖЫМ — РАСПАУСЮДЖВАЛЬНІК П'ЯНСТВА

У „Камсамольскай Праўдзе" ад 22 ліпеня сёлета зьмешчана карэспандэнцыя зь Менску — „Вось і павячэрай!.." Зацемка кідае сьвятло на праблему алкагалізму ў Савецкім Саюзе. Трэба сказаць, што зьява алкагалізму — камплексная, спараджаецца рознымі прычынамі. Вось адна зь іх.

Калі вы заходзіце ў менскі рэстаран і просіце прынесьці вам страву, не замаўляючы пры гэтым алкаголю (найчасьцей, пэўна-ж, гарэлкі), дык будзеце дарма чакаць, „Толькі пасьля таго, калі мы зьвярнуліся па дапамогу да дырэктара рэстарану, нам удалося павячэраць" — гаворыцца ў карэспандэнцыі нейкага В. Гатальскага, які з групай прыяцеляў захацеў паесьці без гарэлкі ў вадным з рэстаранаў беларускае сталіцы. Абураныя наведвальнікі хацелі даведацца прозьвішча афіцыянткі, што ня прынесла ім пассьці, але ў рэшце падумалі: „Справа ня ў прозьвішчы, справа ня толькі ў ёй (афіцыянтцы). Ужо гэтак павялося, што ў рэстаране прыхільна сустракаюць толькі тых, хто замовіць сьпіртавага напітку. Афіцыянту ад гэтага простая выгада — больш заробку. Выгадна гэта й адміністрацыі рэстарану, **бо барждэжэй можна выканаць плян".**

У першай „сацыялістычнай" дзяржаве сьвету — п'янства й тое па пляне ...

---

бяруць забавязаньне здабыць па 60 пудоў збожжа з гэктара; але гэта толькі забавязаньне. Тымчасам, ніякая прыватная гаспадарка гэткім ураджаем цяпер не здавальняецца. А запраўднасьць падае факты, што калгасьнік зарабляе 150-200 грм. збожжа за дзень (уважце — грамаў, а не кіляграмаў!), а па кавалак хлеба мусіць хадзіць па 50-70 кілямэтраў у бліжэйшыя гарады. Калгаснае жыцьцё гэткае „шчасьлівае", што з калгасу людзі ўцякаюць у места, шукаючы там працы ў промысьле, дарма, што і там заработкі жабрачыя.

Бадай найбольшую ўвагу менская прэса ўдзяляе жывёлагадоўлі. У кажнай газэце знойдзеш артыкулы пад гэткімі загалоўкамі: „Пабольшыць лік жывёлы", „Больш увагі жывёлагадоўлі", „Надоім ...", „Дасягнем ...", „Выканаем і перавыканаем". Аднак хто хоць крыху знаецца на жывёлагадоўлі ды на гадаўляным промысьле, дык дзеля ацэны фактычнага стану рэчы хопіць вось гэтае выпіскі зь Менскае „Зьвязды" (№ 49): „*Надоі малака за месяц студзень ад кажнае каровы па 59 кгрм; па абласьцёх: Віцебскай — 40, Маладэчанскай — 43, Магілеўскай — 40*".

Пералічаецца рад калгасаў, у якіх ад каровы надоена яшчэ менш, а ёсьць раёны з надоямі за месяц студзень па 15 літраў (ці кгрмаў). „Нізкія надоі атрымаліся і ў саўгасах (каля 115 кгрм. ад каровы. Гэткі-ж стан працягваецца ў лютым". Далей гаворыцца: „сярэдняя вага галавы буйнай рагатай жывёлы, здадзенай і прададзенай калгасамі дзяржаве ў студзені, склала толькі 195 кгрм., сьвіней — 63 кгрм. і авечак — 25 кгрм.

Аб чым сьветчаць гэтыя дадзеныя? Яны паказваюць простую рэч, што на Беларусі (а і па ўсім СССР бадай ня лепш) жывёлагадоўля стаіць на найпрымітыўнейшай ступені разьвіцьця: жывёлы няма чым карміць узімку і найважнейшым стараньнем — каб як яна толькі перажыла зіму ды выйшла на пашу. Дык якая можа быць мова аб прадукцыйнасьці? Ведама-ж пры такім стане рэчы дойныя сэзоны вельмі-ж кароткія: каровы выцельваюцца ўвясну і запускаюцца ўвосень. Таму пачынаючы з кастрычніка аж да сакавіка ўлучна малака амаль няма. Пададзеная вага жывёлаў прамаўляе сама за сябе.

І запраўды чым карміць жывёлу?

Галоўны кармовы грунт — сенажаці — перапсованыя капаньнем торпу. Бальшавікі-ж не азіраюцца й на першарадныя паплаўныя сенажаці. Здымаючы з торпу мінэральны грунт і кідаючы яго на гэтай-жа сенажаці як і выкапаны торп, які частагуста ляжыць праз гады ня зьвезены, яны першарадны сенажатны грунт абарочваюць у вазярыны з зарасьнікам дзікага зельля навокал.

Тое, што крамлёўскі Мікіта паўтарае заклікі сеяць кукурузу, не падыйме на Беларусі жывёлагадоўлі; захады гэтыя суляць новыя няшчасьці калгасьнікам, у якіх пляцы „добраахвотна" адбіраюцца пад засеў калгаснай кукурузы. Знак з гэтага будзе толькі такі, што ў калгасах запануе большы голад.

Ня можа быць мовы аб ураджаях кармовых расьлінаў на палёх пры іх агульным спустошаньні. Цяпер прэса парапагуе жоўты лубін, як кармавую расьліну, што таксама няпэўнае: памінаючы тое, што харч з лубіну дрэны, ён досыць вымагальны на клімат: звычайна на Беларусі на сухіх глебах яму нестае вільгаці й цяпла.

Дык „карэнныя меры" партыі і ўраду нічога не памогуць, як і раней не памагалі.

У выніку ўсяго гэтага — зьмяншэньне жыхарства Беларусі на 2.500.000 душ ад 1940 году. Гэта катастрофа! Нельга-ж тлумачыць гэтага спадку вайною ды ўцёкамі Беларусаў з роднага краю па ўсім сьвеце. Дзе-ж дзяецца натуральны прырост? Першая прычына зьмяншэньня жыхарства бязумоўна эканамічная — галеча, голад, заўсёдная нястача.

Гэткі білянс бальшавіцкага ўладараньня за 40 год. І гэтага, зноў-жа, нельга тлумачыць толькі разбуральнаю бальшавіцкай сыстэмаю ды няздольнасьцю самых бальшавікоў: уся пастаноўка справы, як і масавы разгон Беларусоў на цаліну й наагул у далёкія часткі СССР сьветчаць пра тое, што бальшавікамі вядзецца сьведамая згубная для нацыі каляніяльная палітыка.

*С. Міхалеўскі.*

## У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

12-га ліпеня сёлета адбылася апошняя ў восенска-зімовым сэзоне 1957-58 г. навуковая зборка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Зборка была прысьвечаная падсумаваньню працы Інстытуту за мінулы год і плянам на будучыню. У рамах зборкі, былі прачытаныя некаторыя атрыманыя літаратурныя матар'ялы для наступнага нумара часапісу БІНіМ „Конадні". Зборка скончылася дыскусіяй на тэму прачытанага.

Падсумоўваючы дзейнасьць Інстытуту ў сэзоне 1957-58 г., у рамах навуковых зборкаў Інстытуту адбыліся гэткія даклады й дыскусыйныя вечары:

19-га кастрычніка 1957 году цыкль восенска-зімовых зборкаў быў адчынены рэфэратам праф. А. Адамовіча, у якім ён падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі з падарожжа ў Эўропу на Канфэрэнцыю Мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР.

6-га сьнежня быў зладжаны разьвітальны даклад сябры БІНіМ — гасьця з Ангельшчыны — айца Ч. Сіповіча.

18-га студзеня адбыўся даклад ген. Ф. Кушаля з галіны Гісторыі Беларускіх Войнаў — „Другая Лівонская вайна".

1-га лютага — пасьля ўступнога слова сп. Я. Запрудніка, адбылася шырокая дыскусія ў справе ведамае кнігі Вакара ў ангельскай мове „Беларусь, тварэньне нацыі".

У сыботу 22-га лютага ген. Ф. Кушаль прачытаў рэфэрат на тэму „Войны Жыгімонта 3-га Вазы з Маскоўшчынай і адваёва Смаленшчыны й Севершчыны".

22-га сакавіка, напярэдадні Сакавіковых урачыстасьцяў, прысьвечаных 40 угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — адбыўся вельмі цікавы даклад ген. Ф. Кушаля на тэму „Сорак год беларускага збройнага змаганьня".

31-га траўня праф. А. Адамовіч меў даклад на тэму „Некаторыя Купалавы баляды 1918 году".

14-га чырвеня др. В. Тумаш прачытаў даклад, прысьвечаны „Этнаграфічнай прасторы Беларусі".

Падсумоўваючы працу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, належыць прыгадаць і выхад у сьвет, дарма што Інстытут, ня маючы ніадкуль падтрыманьня, перажывае апошнім часам вялікія матар'яльныя цяжкасьці, — 5-6 нумару літаратурнага часапісу „Конадні" — вялікай (168 балон. тэксту) кніжкі з багатым зьместам, якую можна выпісваць з Сакратарыяту БІНіМ.

*ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ Ў АМЭРЫЦЫ*

запрашае ўсё грамадзтва прыняць удзел у

**КОНКУРСЕ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ ВОПРАТКІ,**

які адбудзецца ў часе VII-га Гадавога зьезду ЗБМА ў днёх 30-31 жніўня (Labor Day) сёлета ў Нью Ёрку.

Конкурс падзелены на дзьве катэгорыі: мужчынскую і жаночую. Каштоўныя ўзнагароды ад шматлікіх арганізацыяў і прыватных асобаў.

**Галоўная Управа ЗБМА**



*ДЗЯВОЧЫ ГАРНІТУР*

**Доўгая сарочка з кужэльнага палатна з тканым арнамэнтам, суконная (шарсьцяная) спадніца, хвартух кужэльны з багатым тканым арнамэнтам, шнуроўка; на галаве — павязьнік. Арнамэнт — чырвонага колеру.**

**В. Семяжова, Краснаслабодзкага р., Бабруйскай вобл. Фатаграфія із збораў Усебеларускага Архіву ў Нью Ёрку.**

## Філія Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду

**КАМУНІКАТ № 1.**

Аб тым, што ў ЗША існуе Філія ССФ пры ЦБАА, было пададзена да ведама беларускага грамадзтва ў Амэрыцы ў прэсе („Беларус", № 62, 30 лістапада 1957 г. і „Бацькаўшчына" № 8 (394), 23 лютага 1958 г.). У міжчасе ўправай Філіі была праробленая праца галоўна ў спаганяньні запазычанасьцяў у касу ССФ ад Беларусаў, былых студэнтаў, якія сваім часам атрымалі дапамогу з касы ССФ у форме пазыкі ды якія цяпер жывуць у ЗША, Мэтай гэтага камунікату — зданьне лічбы зь дзейнасьці Філіі за праміную ы час. Такія камунікаты будуць падавацца ў далейшым пэрыядычна не радзей, як раз на 6 месяцаў.

Запазычанасьць у касу ССФ мелі 31 Беларусаў на суму 2152.78 ам. даляраў; найменшая запазычанасьць — 11.50, найбольшая 228.50 даляраў. Водгукі даўжбітоў, што да звароту іхнае запазычанасьці можна падзяліць наступна:

1. Зьвярнулі запазычанасьць поўнасьцяй:

Др. А. В, 16.67 дал., сп. А. К. 25.00 дал., сп. Верабей Уладзімер 44.00 дал., сп-ня Верабей Зінаіда 44.00 дал.

2. Зьвярнулі запазычанасьць часткава й зварачаюць у далейшым ратамі: Інж. Арцюх Язэп 20.00 дал., інж. Жогла Аляксандар 40.00 дал., др. Р. В. 5.00 дал., інж. Русак Васіль 30.00 дал., сп. Шульжыцкі Уладыслаў 4.00 дал., др. Трусэвіч Лявон 43.33 дал., сп. Тулейка Міхась 20.00 дал.

3. Задэкляравалі зьвярнуць запазычанасьць у хуткім часе: улучна з асобамі, што сплачваюць сваю запазычанасьць ратамі, такіх ёсьць 12 асобаў на суму 1075.44 дал. Адна трэйцяя частка гэтае сумы, прадбачыцца, будзе зьверненая сёлета — рэшта ў наступным годзе.

4. Не адказалі на 2-3 звароты, што да іх запазычанасьці: дванаццаць асобаў на суму запазычанасьці 589.67 даляраў.

5. Асобы, якіх адрысы няведамыя: Пяць асобаў на суму запазычанасьці 283.67 даляраў. Управа Філіі ня здолела здабыць адрысы гэтых даўжбітоў. Дзеля гэтага ўправа Філіі змушаная прасіць беларускае грамадзтва на эміграцыі памагчы адшукаць адрысы наступных асобаў: Др. Лыслаў Юры, Кіслы Аўген, Качаноўскі Вячэслаў, Пракопчык Юры і Красоўскі Уладзімер. Просіцца пераслаць патрэбныя інфармацыі на адрыс старшыні Філіі, пададзены ніжэй. Адначасна ўправа Філіі просіць прабачэньня з боку асобаў, пералічаных вышэй, за публічнае паданьне іхных прозьвішчаў, аднак управа Філіі ня мела іншага спосабу. Магчыма, гэты нумар газэты дойдзе да рук даўжбітоў, тут пералічаных, тады ласкава просіцца адгукнуцца.

За час праробленай працы было напісана каля 200 лістоў.

Некаторыя Беларусы зложылі ў міжчасе ахвяры на ССФ, дарма што ня было афіцыйнага звароту. Ахвяры зложылі: а. Францішак Чарняўскі 5.00 дал., інж. К. Калоша 9.50 дал., др. Л. Трусэвіч 2.00 дал., сп. Пётра Вярбіцкі 10.00 дал., др. Аўген Вярбіцкі 25.00 дал.

Касавая справаздача:

| | |
|---|---|
| 1. Ахвяры | 51.50 дал. |
| 2. Зварот запазычанасьці | 312.00 дал. |
| Разам | 363.50 дал. |
| 3. Выдаткі (касавая кніга, пашт. маркі, папера) | 15.91 дал. |
| Стан касы | 347.59 дал. |

На аснове гэтае справаздачы ўправа Філіі спадзяецца, што з пачаткам наступнага акадэмічнага году будзе ў стане выдаваць дапамогі ў форме пазыкі беларускім студэнткам і студэнтам у Амэрыцы. Дзеля гэтага просіцца ўсіх даўжбітоў, вінаватых у касу ССФ, зварачаць у меру магчымасьці свае запазычанасьці, чым барджэй, тым будзе карысьней патрабуючым дапамогі беларускім студэнтам. Таксама просіцца беларускае грамадзтва ў Амэрыцы прыйсьці з дапамогай у форме ахвяраў. Звароты запазычанасьці й ахвяры просіцца перасылаць на адрыс старшыні Філіі беспасярэдня, або праз рукі наступных сяброў Філіі у ЗША: Мгр. Янка Запруднік—прадстаўнік ад БІНіМ, сп. Аўген Протас — прадстаўнік ад БАЗА, інж. Кастусь Калоша — прадстаўнік ад БААТ.

Кіраўніцтва Філіі пры ЦБАА у ЗША выказвае надзею, што Філія здолее стаць сталай дапамаговай арганізацыяй беларускага студэнцтва на эміграцыі.

Др. А. Вярбіцкі
Старшыня Філіі ССФ пры ЦБАА у ЗША. Адрыс:
P. O. Box No. 301
Waterloo, Iowa

*ПРЫПАМІНАЕМ, ШТО ТРЭЙЦЯЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ЗША И КАНАДЫ АДБУДЗЕЦЦА 30 И 31 ЖНІВЕНЯ И 1 ВЕРАСЬНЯ Ў НЬЮ ЁРКУ. ВАЗЬМЕЦЕ ЧЫННЫ ЎДЗЕЛ.*

**НА ПАДТРЫМКУ РАДЫЁВЫХ ПЕРАДАЧАЎ**

Нью-Брансьвіцкі аддзел згуртаваньня Беларускае Моладзі зладзіў 7-га ліпеня вечарыну танцаў. На вечарыну прыбыла моладзь з Саўт-Рыверу ды зь Нью Ёрку. Вечарына добра ўдалася. Моладзь весела танцавала й прыемна правяла час. А прыемнае было тут спалучанае з карысным, бо 75% прыбытку зь вечарыны перададзена на падтрымку беларускіх тыднёвых радыяперадачаў, што надаюцца із станцыі WPOW у нядзелі а 8:30 г.

Трэба ўспамянуць, што радыяперадачы арганізавала таксама моладзь, з запраўдніцьці з прыватнае ініцыятывы сябры М. Казьлякоўскага. Старэйшаму грамадзтву таксама варта падбаць, каб гэтыя радыяперадачы не заглухлі.